

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1993 САКАВІК 24 СЕРАДА

№ 56 (491)

Цана 3 рублі

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


● НА СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА

## ЦЯЖКАЯ РАБОТА

### ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ З МОЦНЫМІ НЕРВАМІ АЛЬБО ДЛЯ АМАТАРАЎ ВОСТРЫХ АДЧУВАННЯЎ

УЛАСН. ІНФ. «ДВ».

Учарашні дзень работы 11-й сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў атрымаўся надзвычай цяжкім і напружаным. Пастаянная балансіроўка паміж наяўнасцю і адсутнасцю кворуму, з-за якой давялося нават аб'яўляць незапланаваны перапынак, дапоўнілася выключна важным пытаннем аб межах кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю.

Але спачатку ўсё было ціха-мірна, і зацвярджэнне кандыдатур на пасады народных суддзяў прайшло без цяжкасцей, гэтак жа, як і вызваленне ад абавязкаў суддзяў некалькіх чалавек у сувязі з іх заявамі.

Потым, пры самым жорсткім кантролі за кворумам, дэпутаты зацвердзілі палажэнне і структуру ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, а таксама прынялі рашэнне дапрацаваць палажэнне па штрафах за адміністрацыйныя правапарушэнні ў сувязі з найвялікшай колькасцю папраў і разгледзець яго ўжо на наступнай сесіі гарсавета.

І вось калі на парадку дня засталося толькі адно пытанне, гарсавет зайшоў у тупік. Вызначыць межы кіравання камунальнай уласнасцю ні з першага, ні з другога, ні з трэцяга разу не ўдалося.

Справа ў тым, што шэраг дэпутатаў падалі пэўную колькасць папраў, якія дэлегавалі правы распараджэння гарадской уласнасцю гарадскому Савету, а не выканкаму, як гэта планавалася ў праекце. Як ні парадаксальна, не ўсім дэпутатам дадатковыя паўнамоцтвы прыйшліся даспадобы, і пры вельмі няўстойлівым кворуме ўсе папраўкі аказаліся забалаціраванымі.

У знак пратэсту нават такі разважлівы і спакойны чалавек, як старшыня камісіі па эканоміцы і бюджэту Уладзімір Карагін вымушаны быў пакінуць залу пасяджэнняў на пяць хвілін. Уладзімір Мікалаевіч, каменціруючы свой крок для нашай газеты, падкрэсліў, што немагчыма дапусціць, каб выканкам меў аднаасобнае права выступаць заснавальнікам і гаспадаром аб'ектаў камунальнай уласнасці. Гарадскі Савет — народныя абраннікі, прадстаўнікі насельніцтва Мінска — маюць права не толькі вызначаць грашовае выражэнне ўласнасці (г.зн. бюджэт), але і самым непасрэдным чынам уплываць на любыя змены статуса альбо формы маёмасці аб'ектаў гарадской гаспадаркі.

Цікава, што пасля таго, як было прынята рашэнне па пайменнаму галасаванню, шэраг папраў адразу набраў пэўную колькасць галасоў. Але сам дакумент у цэлым зацверджаны так і не быў. Пасля дапрацоўкі сесія вернецца да яго ў наступны аўторак.

Наўрад ці ёсць патрэба распавядаць чытачам пра ўсе перыпетыі ўчарашняга дня. Адзначу толькі, што, назіраючы за ходам дыскусій і вынікамі галасавання, я прыйшоў да адназначнага рашэння — магутнае выканкамаўскае лобі ў гарадскім парламенце рабіла ўсё, каб абмежаваць паўнамоцтвы дэпутатаў у гэтым вызначальным пытанні. Добра, што народныя прадстаўнікі праявілі патрэбную настойлівасць, не паддаліся эмоцыям і дабіліся дадатковага яго разгляду. Пачакаем да аўторка.

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПО СООБЩЕНИЯМ БЕЛАПАН, РИД И СОБСТВЕННЫХ КОРРЕСПОНДЕНТОВ «ДВ»

### БЕЛОРУССКИЙ ПРЕЗИДЕНТ ПОЛУЧИТ «БОЛЬШИЕ ПОЛНОМОЧИЯ»

В проект новой Конституции Республики Беларусь включен новый раздел «Высший контроль и надзор», в котором говорится о Конституционном суде, прокуратуре и Контрольной палате Беларуси.

Президент Республики Беларусь будет одновременно главой государства и главой исполнительной власти, имея «весьма большие полномочия». Об этом сообщил на последней пресс-конференции в Верховном Совете РБ руководитель рабочей группы по созданию Конституции Генеральный прокурор Беларуси В.Шолодонов.

Присутствовавший на пресс-конференции народный депутат РБ В.Голубев заявил, что в тексте проекта наблюдается стремление сохранить в Беларуси непрофессиональный парламент. Он также сказал, что в проекте есть отдельные статьи, которые просто невозможно выполнить, а потому будущая Конституция может оказаться нелегитимной. Опасение у народного депутата вызвало также то, что подчиненный сейчас парламенту КГБ, согласно проекту, передается в ведение Президента и входит в состав Кабинета Министров (так будет называться белорусское правительство).

### ТРАНСПОРТНЫХ ЛЬГОТ У СТУДЕНТОВ НЕ БУДЕТ

**Из утвержденной на заседании Президиума Совета Министров РБ государственной молодежной программы Беларуси по инициативе премьер-министра Вячеслава Кебича был изъят пункт о транспортных льготах для студентов. Взамен Председатель Совмина предложил увеличить стипендии, сославшись на рыночные отношения, хотя во многих странах с чисто рыночной экономикой льготы для обучающихся в высшей школе куда значительнее и разнообразнее, чем у нас.**

**По не подтвержденным официально данным, в не столь далеком будущем может быть упразднен и бесплатный проезд для пенсионеров, введенный в РБ с начала этого года. Это объясняется возросшими расходами на содержание транспортных средств и отсутствием у государства возможностей продолжать в таком большом объеме дотировать убыточные перевозки.**

### ☐ КОРАТКА

ЦЭНТРАЛЬНАЯ Рада Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады прыняла рашэнне аб стварэнні сумесна з БНФ і іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі аргкамітэта па правядзенню трэцяй Усебеларускай палітычнай канферэнцыі. Паводле звестак БелаПАН, ад Грамады ў склад аргкамітэта дэлегаваныя старшыня партыі Алег Трусаў і сябра Цэнтральнай Рады Анатоль Сідарэвіч.

### ДАПАМОГА НЕЗАМОЖНЫМ

Уласн. інф. «ДВ».

Фонд сацыяльнай абароны грамадзян раёна, якія маюць у тым неабходнасць, створаны рашэннем Фрунзенскага райвыканкама.

Зараз у гэтым буйным раёне нашай сталіцы жыве 8 тысяч інвалідаў (з іх 286 дзяцей), больш за 1600 адзінокіх пажылых людзей, каля 100 дзяцей-сірот, 642 перасяленцы з чарнобыльскай зоны, 430 мнагадзетных сем'яў. Фонд, які атрымаў назву «Забота», будзе ім дапамагаць. Акрамя назвы фонд атрымаў і памяшканне ў адным з дамоў па вуліцы М.Лынькова. Там будзе адкрыты магазін для маламаёмных. Дапамогуць і накіраваныя ў пазабюджэтны фонд райвыканкама прыбыткі ад конкурсных распрадаж камунальнай маёмасці. Адну з іх ва Фрунзенскім раёне правядуць 14 красавіка. Але шэраг прадпрыемстваў ужо зараз вырашыў перавесці сродкі на карысць фонду сацыяльнай абароны незаможных жыхароў.

### КУДА ДЕВАЕТСЯ ЗДОРОВЬЕ?

Сергей ВЕРАС.

**Оправдываются мрачные прогнозы ученых. В прошлом году во 2-й городской больнице Минска было дополнительно открыто 2 онкологических отделения.**

**Уже подготовлена проектно-сметная документация на строительство в столице нового онкологического центра на 120 мест. Еще 120 коек получат онкологические больные в огромной больнице, строящейся в микрорайоне «Уручье».**

**Казалось бы, строим на благо людям. Но, к сожалению, эти новостройки радости не вызывают.**

### ПИКЕТЧИКИ СУШАТ СУХАРИ

Ирина НОЗДРИНА.

Как стало известно корреспонденту БелаПАН, участникам пикета, проведенного 17 марта у белорусского представительства ООН, удалось добиться своего. Решительно настроенных гомельчан принял представитель ООН в Беларуси господин Кравчук. Он пообещал, что обращение пикетчиков будет отправлено в штаб-квартиру ООН. Но сами пикетчики настроены пессимистично: они не верят, что в Женеве обратят внимание на бесправие и беспомощность пострадавших от Чернобыля людей. Поэтому летом гомельчане планируют предпринять пеший поход в Женеву. Так что, как сказал один из участников пикета, «Нашим семьям нужно начинать сушить сухари. Другого выхода мы не видим — ведь на зараженной Гомельщине гибнут дети».

### СЛУЖБА ПОМОЩИ

Впервые в Беларуси создана служба психологической помощи жертвам сексуального насилия. Не только сами потерпевшие, но и их родные, которые в результате несчастья с близким человеком подверглись стрессу, смогут теперь обратиться к опытным специалистам.

Идея создания подобной службы возникла у сотрудников Минского социологического центра. Их поддержали работники здравоохранения, милиции. Итак, если, не дай Бог, кто-нибудь из вас стал жертвой насилия или находится под постоянным сексуальным притеснением, звоните по телефону доверия: 46-11-11. Еще лучше, минуя телефон, обратиться непосредственно по адресу: Минск, ул.Красная,2, кабинет психологической помощи жертвам сексуального насилия.



● ДАСЛОЎНА

## «ВЫХАД З НЯВОЛІ ЯШЧЭ НЕ ЗАВЕРШАНЫ»

**Доктар Язэп Сажыч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, наш суайчыннік з Дэтройта (штат Мічыган, ЗША) звярнуўся з віншаваннем з выпадку 75-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР. У звароце, у прыватнасці, гаворыцца:**

*«Паважаныя суродзічы.*

*Сардэчна віншую вас з 75-мі ўгодкамі «Акту 25 сакавіка», актам абвешчаньня незалежнасьці БНР. Гэтым векапомным актам нашы папярэднікі ў змаганьні за свабоду і дэмакратычны лад на Беларусі далі нам усім прыклад палітычнай празорлівасьці і самаахвярнага служэньня справе нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Сёньня, пасьля пакутлівых дзесяцігодзьдзяў паняволеньня, што каштавала Беларусі масу трагічных стратаў, беларускае адраджэньне выйшла на новы этап у выніку краху камуністычнае тыраніі, да падзеньня якое спрычыніўся разам зь іншымі і наш шматпакутны і гераічны народ. Але выхад зь няволі яшчэ далёка не завершаны. Сілы рэакцыі і зла яшчэ моцныя на Беларусі, пра што сьведчыць хоць бы нядаўняе патаптаньне волі сотні тысячаў выбаршчыкаў, што выказаліся за правядзеньне рэферэндуму аб нечарговых выбарах, а таксама скасаваны кансерватыўным у сваёй большасці Вярхоўным Саветам рэспублікі леташняе забароны злачыннае ў нашай гісторыі камуністычнае партыі.*

*Другі паказальнік зла, што яшчэ пашыранае на Беларусі, — гэта галасы за наданьне афіцыйнага статусу расейскай мове, супраць чаго катэгарычна выказваецца Рада БНР. Тут трэба нагадаць, што Устаўныя граматы Рады БНР гарантуюць свабоду развіцьця культураў усім нацыянальным меньшасьцям Беларусі, у тым ліку і расейскай, аднак граматы Рады БНР ніякага ўпрывілеяванага статусу расейскай меншыні не надаюць. Прызнаньне расейскай мове статусу мовы дзяржаўнай у сучаснай Беларусі было б зьняважаю беларускай дзяржаве.*

*Калі б разгляд пытаньня аб дзяржаўнасьці расейскай мовы быў пастаўлены на парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — гэта быў бы ўвачу цэлага сьвету найвыразнейшы паказальнік, што суверэннасьць Рэспублікі Беларусь — гэта фікцыя. Але будзем спадзявацца, што да гэткай ганьбы й гэткай небясьпекі не дойдзе, і будзем рабіць усё магчымае, каб не дайшло».*

*На прыканцы звароту ўтрымліваецца заклік да беларусаў замежжа «задзіночыцца вакол Рады БНР у працы на карысць вольнай і дэмакратычнай Беларускай дзяржавы».*

БелаПАН.

## КРИМИНАЛ

СЕРГЕЙ РАЧИЛА, пресс-центр ГУВД

### ГНЕВ СМЕНИЛСЯ НА МИЛОСТЬ?

**У СТОЛИЧНОГО стадиона «Спутник» патрульный наряд Советского РОВД задержал 40-летнего водителя ГАП-4 ПО «Минскгрузавтотранс» К. Последний из бака закрепленного за ним МАЗа слил около 300 литров дизельного топлива (примерно на 7 тысяч рублей) и пытался его продать.**

**Интересно, а существует ли вообще какой-либо учет выдачи топлива в данной организации? Если один из водителей просто так ворует целых 300 литров, не опасаясь гнева своего руководства,— может, этого самого гнева вообще не существует?..**

### «ТРУДЯГА-ИНДИВИДУАЛ»

**В МИНУВШИЙ понедельник следователями Московского РОВД возбуждено уголовное дело в отношении 25-летнего минчанина А., занимающегося индивидуальной трудовой деятельностью. В воскресенье утром «индивидуал» преодолел забор совминовских гаражей по улице Клары Цеткин и принялся разукомплектовывать тамошние автомобили. За этим занятием его и застал милиционер.**

**По всей вероятности, ему придется в ближайшие пару лет потрудиться и на государство...**

### ...И «МУРАВЕЙ» — КЛАДОВЩИК

**22 МАРТА милиция Заводского района столицы задержала кладовщика Минского рессорного завода С. И не просто так. Выяснилось, что в течение недели он воровал из вверенного ему объекта (то бишь склада) электропроводку. Всего в личный «термитник» С. уплыло продукции на 13 тысяч рублей. Возбуждено уголовное дело по статье 91 УК РБ (хищение госимущества). Расследование продолжается.**

### ВМЕСТО ДВИГАТЕЛЯ — КОННОЕ СЕДЛО...

**НЕИЗВЕСТНЫЕ злоумышленники взломали дверь неохраняемого помещения одного из коммерческих предприятий города, украв оттуда мотоцикл «Ява» (без двигателя) и... два конных седла.**

**Что ж, для полного счастья им остается приобрести двигатель и парочку гнедых...**

**Ведется поиск преступников.**

● ФАКТ

## БІЗНЕС З УСХОДНЯЙ ЕЎРОПАЙ

УЛ. ІНФ. «ДВ».

**СЁННЯ ў германскім горадзе Гановеры пачалася пятая сусветная выстава інфармацыйных тэхналогій, сродкаў тэлекамунікацый і офіснага абсталявання «CeBIT-93».**

Гэта адно з самых буйнейшых мерапрыемстваў такога плана. Дарэчы, адно з самых прэстыжных. Бо нават сусветныя лідэры па вытворчасці электроннага абсталявання — японцы — усе свае новыя распрацоўкі намагаюцца дэманстраваць менавіта тут.

У выставе прымаюць удзел і прадстаўнікі краін Усходняй Еўропы, у тым ліку і Беларусь. Экспазіцыя прадэманструе магчымасці прадпрыемстваў і навуковых устаноў рэспублікі, якія працуюць у галіне інфармацыйных тэхналогій, пазнаёміць замежных калегаў з эканамічным і прававым становішчам у Беларусі.

Трэба дадаць, што выставачныя плошчы прадастаўлены арганізатарам выставы — фірмай «DEUTSCHE MESSE AG» — бясплатна. Акрамя Беларусі, у выставе ўдзельнічаюць інщыя краіны СНД і Усходняй Еўропы. І, вядома, сусветна вядомыя фірмы Захада.

## НАШ КАЛЯНДАР

*СЕРАДА, 24 САКАВІКА*

*СОНЦА — 6.03/18.29*

*Даўжыня дня — 12.26*

*МЕСЯЦ — маладзік 23 сакавіка*

*усход 4.42/захад 18.39*

*ІМЯНІНЫ:*

*Праваслаўныя: Сафрона, Яфіма.*

*Каталіцкія: Габрыэля, Кацярыны (Касі), Марка.*

● З НАГОДЫ

## СВЯТА ЗВЕСТАВАННЯ

Ксёндз УЛАДЗІСЛАЎ ЗАВАЛЬНЮК

ЗВЕСТАВАННЕ — гэтае слова абазначае абвяшчэнне, аб'яўленне добрай весткі, звеставанне — па-руску Благавещчанне.

25 сакавіка кожнага года каталіцкі люд святкуе Дзень Звеставання, дзень добрай весткі для людзей, што мае нарадзіцца Збаўца свету.

Таямніца Уцялення слова Спрадвечнага, інакш кажучы, гэта таямніца, у якой Бог прыняў чалавечую сутнасць, споўнілася менавіта ў хвіліну Звеставання. Гэтая таямніца дае пачатак усім святым таямніцам нашай веры, яна распачынае нашае адкупленне. Святое пісьмо так гаворыць: гэта таямніца незразумелай дабрыні і міласэрнасці Бога да людзей.

Арханёл Габрыэль звеставаў Найсвяцейшай Панне Марыі аб тым, што яна пачне і народзіць сына.

Звеставанне — гэта аб'яўленне ўсяму роду чалавечаму ў Асобе Найсвяцейшай Панны Марыі аб гэтым вялікім непараўнальным шчасці, якое мы атрымалі праз прыйсце на зямлю Сына Божага.

Пасля ўпадку першых нашых бацькоў, Адама і Евы, Бог паслаў Свайго Сына на зямлю дзеля нашага збавення, дзеля таго, каб вярнуць нам права на неба, страчанае і замкнёнае перад намі грэхам першародным.

І дзеля таго, каб Сын Божы, другая Асоба Тройцы Святой; наш Збаўца, праўдзівы Бог прыйшоў на свет, патрэбна было, каб нарадзіўшыся з жанчыны, узяў на Сябе цела чалавечае, не перастаючы быць Богам, быў адначасова і чалавекам. Бог Айцец чакаў, пакуль паявіцца жанчына святая, так дасканалая, так мілая Богу, як прыстала на тую, каторая мела стацца Маці Бога ў чалавечым целе народжанага. І такой жанчынай, выбранай сярод усіх жанчын, была Найсвяцейшая Панна Марыя. Бог, назначыўшы Яе на Маці Сына свайго адзінароднага, адарыў Яе ўсімі ласкамі.

Свята Звеставання ўзыходзіць ад глыбокай старажытнасці. Увесь хрысціянскі свет надзвычай ушаноўвае Маці Божую. Касцёл называе Яе Найсвяцейшай — тытул, каторым толькі адзін Сакрамант называецца Найсвяцейшым — гэта Сакрамант Цела і Крыві Хрыста.

Хрысціяне бачаць у Панне Марыі сваю заступніцу, суцяшальніцу, да Яе звяртаюцца з самымі рознымі просьбамі. Яе ўшаноўваюць. Ёй пакланяюцца, і нездарма народ лічыць, што дзень Звеставання —вялікае свята, бо ў гэты дзень нават і птушкі сваіх гнёзд не звіваюць.

Сімвалічна, што ў гэты дзень, дзень Звеставання нашага выбаўлення, 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Незалежная Беларуская Рэспубліка і сёлета наш народ адзначае 75 гадавіну яе.

У гэты дзень ва ўсіх касцёлах адбудуцца ўрачыстыя набажэнствы за беларускі народ з нагоды 75 гадавіны абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Будзем у гэты дзень прасіць Маці Божую Яе заступніцтва і ласкі для нашай Радзімы, для нашага народу, нашым сем'ям, родным і блізкім.

Матачка Божая! Ахіні і абарані нас ад усялякай злой нагоды, ад недароду і голаду, ад пажараў і войнаў!

Выпрасі ў Бога для нашай любай Радзімы спакой і згоду паміж усімі людзьмі, каб мы тут, на зямлі, жылі паводле Божых Запаветаў, знялі і паважалі Бога, заслужылі вечнае шчасце ў небе.

Просім Цябе, Маці міласэрная, пачуй нашы малітвы!

• ПА ГАРАЧЫХ СЛЯДАХ

# ТРЫ КРОКІ НАЗАД ПАД ВЫГЛЯДАМ РУХУ НАПЕРАД

Міхаіл Гаварэнь, «ДВ».

Нарэшце! Нарэшце Беларусь мае канцэпцыю выхаду з крызісу. Яе абнародваў Старшыня Савета Міністраў на адным са шматлікіх у апошні час пасяджэнняў. (І калі толькі людзі паспяваюць працаваць? Ледзь не праз дзень засядаюць. Калі, вядома, за мяжу не падаліся з візітам). Канцэпцыя простая, як і ўсё геніяльнае. У двух словах яе можна сфармуляваць так — назад ў Саюз. Але пра ўсё па парадку. Прамову можна разбіць на тры часткі. Першая, найбольш працяглая — аб крызісе і шляхах выйсця з яго. Аналіз прычын і аргументацыя не вызначаюцца навізной і арыгінальнасцю. Зноў пра разрыў сувязей (хоць бы адно прозвішча калі назвалі, хто іх персанальна парваў паміж двума прадпрыемствамі і чаму), пра залежнасць ад энерганосьбітаў і сыравіны, пра вялікую інтэграцыю (быццам бы ў Літвы яна была куды меншай). Зноў пачулі набор звыклых абвінавачванняў у адрас так і не названых дэструктыўных сіл, якія цяпер прыязджаюць на заводы і агітуюць супраць улады.

Новае ў выступленні тое, што прырост аб'ёмаў вытворчасці, якім так ганарыліся, які лічылі галоўнай заслугай урада, як аказалася, нічога народнай гаспадарцы не даў.

Словам, усё тыя ж аб'ектыўныя прычыны і суб'ектыўныя цяжкасці, аб якіх чулі раней неаднойчы. Толькі вось вывады з іх зроблены зусім іншыя, і шляхі пераадолення прапанаваны нестандартныя.

Цяпер прапанавана новае выйсце — вярнуцца назад у Саюз. Славесная дымавая заслона наконт незалежнасці амаль не хавае галоўнага — поўнай ліквідацыі суверэнітэту.

Паўстае пытанне, ці возьмуць нас у Саюз, а калі возьмуць, то на якіх умовах?

Далей было растлумачана, на якіх — поўнае ваенна-палітычнае і эканамічнае падпарадкаванне. Беларусі адводзіцца роля нават не сатэліта, а проста адной з ускраінных расійскіх правінцый. Такі лёс краіне наканаваў яе прэм'ер.

Ці існуе гарантыя, што ў новым Саюзе Беларусі будзе лепш, чым цяпер? Той жа прамоўца не пярэчыў супраць аб'яўлення суверэнітэту, калі станавіўся на чале ўрада, запэўніваў, што нам будзе вельмі добра жыць самастойна.

Гэтай канцэпцыяй урад распісаўся ва ўласнай няздольнасці кіраваць народнай гаспадаркай краіны (Беларусі!) у новых цяжкіх і складаных умовах. І, замест таго, каб самому пайсці ў адстаўку (як гэта робяць усе цывілізаваныя дзеячы), вырашыў адправіць у адстаўку суверэнітэт. Сам жа будзе трымацца за ўладу да апошняга.

Звыклыя словы пра цвёрдыя абавязкі ў новым Саюзе нікога не здольны падмануць. Дзе расійская нафта, дзе казахскае зерне, якія абавязаліся пастаўляць партнёры і аб пастаўцы якіх па ўзгодненых цэнах была дасягнута дамоўленасць алмазнай цвёрдасці? Дзе яны?

Другі раздзел прамовы — аб абароне, арміі, лёсе ваеннай маёмасці. Страшэнная небяспека навісла над Беларуссю. Імя ёй — нейтралітэт. Ну, не здольна нейтральная Беларусь у сучасных геапалітычных абставінах выжыць. Вось калі на яе тэрыторыі будзе зноў шмат расійскіх войск — справа іншая. І армія наша ні ад чаго не абароніць, і зброю мы не здольны самі выпускаць (дарэчы, большасць краін свету ўзбраенне купляе, а не выпрабляе ўсё сама), і афіцэраў не здольны навучыць (быццам суседнія краіны адмаўляюцца прымаць нашых хлопцаў за плату вучыцца). Жах ды і толькі. Як жа Літва, з яе 20-тысячнай арміяй, спіць спакойна і не ўпрошвае: вярніся хутчэй, Савецкая Армія?

Цікавы ўклад у ваенную дактрыну: армія Беларусі патрэбна не толькі і не столькі дзеля абароны, як для дапамогі народнай гаспадарцы. Яно і правільна. Інакш хто ў калгасе збярэ ўраджай збожжа і бульбы?

Складаная праблема — пасля вываду расійскай арміі засталося столькі ваенных гарадкоў, што ўрад не здольны наладзіць іх ахову ад раскрадання, не кажучы ўжо пра рацыянальнае выкарыстанне.

Боязна, што наступствам гэтай прамовы стане ўдзел нашых хлопцаў у не маючых аніякага сэнсу бойках на ўскраінах Расіі пад сцягам якіх-небудзь аб'яднаных, стратэгічных ці міратворчых сіл. Наўрад ці матак салдат і маладых хлопцаў гэта перспектыва ўзрадуе.

Мімаходзь дасталося БТ. Немаведама за што, пад гарачую руку, як кажуць. Калі ўжо сённяшняе БТ не задавальняе Саўмін сваім вальнадумствам, то цяжка нават уявіць, што яно павінна паказваць.

Трэцяя частка прамовы — аб барацьбе са злачыннасцю — была вельмі кароткай. Прэм'ер паскардзіўся, што КДБ падпарадкоўваецца Вярхоўнаму Савету, а не Саўміну. Толькі гэта, напэўна, не дазваляе нанесці апошні ўдар па злачыннасці і карупцыі ў рэспубліцы.

Амаль час працягвалася прамова. Адзін раз яе перапынілі апладысментамі, калі прамоўца сказаў пра вяртанне ў Саюз. Так, усім надакучыла тое, што ў нас адбываецца цяпер. Цэны растуць, вытворчасць падае, паліцы пусцеюць. Усе намаганні ўрада неяк змяніць сітуацыю ў лепшы бок звыклымі метадамі вынікаў не прынеслі. І на гэтым фоне, калі нічога новага прапанаваць ніхто не здолеў, вырашылі вярнуцца да старога — назад у Саюз.

Ці можна двойчы ўвайсці ў адну і тую ж рэчку?

• ДЕЛОВОЙ МИНСК

# НЕ БОЯТЬСЯ КОНКУРЕНЦИИ...

***МНОГИЕ минчане уже давно обратили внимание на красочную вывеску австрийской фирмы «Minolta», что расположена в здании по улице Орловской, 58. А постоянные клиенты, которые приобрели копировальную технику фирмы, довольны ее качеством и надежностью в работе.***

***На днях в Минске побывал коммерческий управляющий «Minolta» в странах СНГ Райнер МИС. Наш корреспондент Виктор СОЛОВЬЕВ встретился и побеседовал с ним.***

— Я уже не в первый раз посещаю Минск, — сказал господин Мис. — И, если, на первых порах нам было трудно здесь без постоянного хорошего партнера, то после знакомства с вашим «Семипланом» мы его обрели. И вот уже полтора года дела здесь идут очень хорошо...

**— В последнее время на белорусском рынке появилось немало иностранных фирм, которые предлагают деловым людям республики добротную копировальную технику. Не боитесь ли вы конкуренции с их стороны?**

— Убежден, что именно здоровая конкуренция и является, как говорят у вас, той «щукой» в реке, чтобы карась не задремал. Тот, кто хочет выиграть на рынке, должен постоянно чувствовать «дыхание» конкурента, расти творчески. Именно поэтому наши машины сделаны на высоком техническом уровне. Они, если так можно выразиться, «впитали» в себя последние исследовательские достижения в этой области.

Кроме того, мы понимаем конкуренцию не только, как изготовление лучших промышленных образцов наших машин, но и как их постоянное послепродажное сервисное обслуживание. Словом, нам бы хотелось, чтобы у клиента наша машина была в рабочем состоянии 24 часа в сутки...

**— В нашем городе хорошо знают представителя «Minolta» в Республике Беларусь Виктора В.КОНАРСКИ и его товарищей по работе. Наши читатели с интересом ознакомились с экспонатами выставки детского рисунка, которую он организовал...**

— Основным достоянием любой уважающей себя фирмы являются ее люди. Я доволен работой представителей нашей фирмы в Беларуси и его коллег. У них очень высокий образовательный уровень, большая привязанность к работе. Очень ценит их у нас хорошие намерения на счет этих людей...

**— В апреле в Минске состоится «Мінскі кірмаш». Насколько мне известно там будет представлена и ваша фирма.**

— Крупные международные выставки и участие в них очень важны для каждой уважающей себя фирмы. Надеюсь побывать на «Мінскім кірмашы»...

*НА СНИМКАХ: господин Райнер МИС; в выставочном павильоне фирмы «Minolta».*

ФОТО ЮРИЯ ЗАХАРОВА.

• ГАРАДСКІЯ КЛОПАТЫ

# АД ЛІХТАРА...

ІРЫНА ЛЬВОВА, «ДВ».

*Напэўна, не многія з мінчан памятаюць той час, калі вуліцы нашага горада асвятляліся ліхтарыкамі з газай, якія запальваліся ўручную. Дакладней кажучы, слупы з імі былі ўстаноўлены толькі на адной вуліцы ў цэнтры Мінска — Губернатарскай (цяпер вул.Леніна). Потым, напачатку 20 стагоддзя, гэтыя ліхтары памянялі на газавыя. А ў 1924 годзе пры Мінскім выканкаме быў створаны аддзел знешняга добраўпарадкавання, дзе прадугледжвалася пасада загадчыка вулічнага асвятлення. Як далей развівалася гэтя справа і якія пытанні ўзнікаюць сёння, расказвае начальнік упраўлення Мінгарвыканкама «Мінгарсвятло»* **Міхась Паўлавіч Бахранькоў:**

— У Мінску першыя ліхтары з лямпамі напальвання з'явіліся толькі ў 1936 годзе. Яны былі ўстаноўлены на вуліцы Савецкай. Электрычнасць паступала з гідраэлектрастанцыі, якая стаяла ў той час на рацэ Свіслач. Дарэчы, у 1964 годзе па рашэнню Мінгарсавета наша ўпраўленне выдзелілася як самастойная арганізацыя, у якой працавала тады 30 чалавек і з аб'ёмам работ у 331 тысячу рублёў. У склад прадпрыемства ўвайшлі: два электрасеткавыя раёны па абслугоўванню сетак вулічнага асвятлення, пульт упраўлення, група капітальнага рамонту і новага будаўніцтва, група па абслугоўванню сродкаў аўтаматыкі і рэгулявання вулічнага руху. Размяшчаліся ў арэндных памяшканнях у розных частках горада. Уласнага аўтатранспарту не было, аўтавышкі выдзяляліся па спецыяльных заяўках. Галоўная мэта прадпрыемства — паляпшэнне працы па асвятленню Мінска. Трэба сказаць, што тады працэнт працуючых свяцільнікаў да ўсіх устаноўленых складаў 80%. У 1966 годзе ствараецца ўжо 5 электрасеткавых раёнаў. Асноўнай цяжкасцю была адсутнасць уласнай вытворчай базы. Былі дні, калі электрасеткавыя раёны не атрымлівалі аўтавышак.

Вялікія перамены адбыліся ў рабоце «Мінгарсвятла» на сённяшні дзень. Тры гады таму прадпрыемства адзначыла сваё дваццаціпяцігоддзе. У цяперашні час мы абслугоўваем каля 60 тысяч свяцільнікаў з лямпамі напальвання, люмінесцэнтнымі і ртутнымі. Прычым ртутных больш за 40 тысяч штук. Працягласць сетак вулічнага асвятлення — 1722 кіламетра, парк спецыяльных аўтамашын — 84 адзінкі, у тым ліку 28 аўтавышак і аўтагідрапад'ёмнікаў. Безумоўна, узрос і аб'ём выкананых работ. У мінулым годзе ён дасягнуў больш за 107 млн. рублёў. Дарэчы, змянілася і структура прадпрыемства. Участак па абслугоўванню сродкаў рэгулявання дарожнага руху перадалі ДАІ Упраўлення ўнутраных спраў.

Цяпер на нашым балансе знаходзіцца і светлавая газета «Навіны» на пляцы Я.Коласа.

У 1986 годзе была пабудавана вытворчая база на вуліцы Гурскага, 38, дзе мы і знаходзімся.

**— Міхась Паўлавіч, якія цяжкасці і клопаты існуюць сёння?**

— Іх шмат. Становішча вельмі складанае. Асноўныя цяжкасці — дрэннае забеспячэнне матэрыяламі. Лямпы, свяцільнікі знешняга асвятлення, кабель выпрабляюцца ў іншых рэспубліках. Мытныя бар'еры, складанасці з грашовымі ўзаемаразлікамі не даюць магчымасці своечасова заключыць дагаворы з заводамі-вырабляльнікамі і атрымліваць матэрыялы, так неабходныя для нармальнага абслугоўвання. Гэта выклікае шмат скаргаў і нездаволенасцей жыхароў горада. На сённяшні дзень у нас няма ні грама голага праваду, таму што Гомельскі завод, які пастаўляе яго нам, стаіць з-за адсутнасці сыравіны. Дадатковыя складанасці стварае і работа гарадскіх тралейбусаў. Калі тралейбусныя штангі зрываюцца, то адбываецца абрыў асвятляльных правадоў, выгаранне цэлых пралётаў сетак і, што важна і на што скардзяцца жыхары, мімавольнае ўключэнне свяцільнікаў у дзённы час. На фоне гэтых цяжкасцей вельмі балюча глядзець, калі падлеткі разбіваюць дарагую асвятляльную апаратуру. Кошт аднаго(!) свяцільніка сёння — 6-7 тысяч рублёў, ртутнай ці натрыевай лямпы — 1000. Няўжо нельга беражліва адносіцца да нашай з вамі ўласнасці!?

**На заканчэнне хацелася б адзначыць наступнае. У «Мінгарсвятле» працуе кругласутачная дыспетчарская служба, якая па графіку ўключае і выключае вулічнае асвятленне і кантралюе яго работу: пры ўсіх няспраўнасцях у работе вулічнага асвятлення ў любы час тэлефануйце ў дыспетчарскую службу прадпрыемства «Мінгарсвятло» па тэлефонах: 27–32–10, 27–43–16.**

# Столичный порядок — ВЕЖЛИВОСТЬ МИНЧАН?...

АНАТОЛИЙ БЕЛОУС, корреспондент «ДВ».

***Многие напасти, обрушившиеся на нас в различных сферах, как-то стушевали, отодвинули на задний план проблемы экологии. Весь комплекс необходимых природоохранных мероприятий сейчас в первую очередь рассматривается через призму дороговизны. Да, удовольствие это не дешево, но скупой, как известно, платит дважды. И бумеранг этой мнимой экономии уже занесен над многими промышленными центрами бывшего Союза. Нынешний же счет пойдет на миллиарды. Видимо, из этих соображений исходили власти Заводского района, организовав около двух лет назад экологическую милицию. Каковы же итоги работы этого подразделения?***

— Хвастать не стану,— замечает один из заместителей начальника Заводского РОВД Н.И.КРЮКОВ,— но результаты нашей деятельности налицо. Во-первых, чисто в психологическом плане. Люди нам поверили и воспринимают всерьез. Сами же читатели часто нам звонят, просят о помощи, указывают адреса безобразий, словом, пекутся о чистоте и порядке в районе. Помимо благоустройства дворов мы присматриваем за прилегающей к предприятиям и организациям территорией. Нередко приходится пресекать стихийные свалки и разовые выбросы мусора. А эта проблема сегодня более чем актуальна. Весна, многие начинают прибираться, избавляться от различного хлама и мусора. А транспортировка всего этого сегодня влетает в копеечку. Вот и вываливают шоферы содержимое своих кузовов на первом попавшемся пустыре. Недавно составлен протокол на водителя УМСР-146, расположенной неподалеку от автозавода. Не долго думая, он махнул за кольцевую дорогу и тут же опорожнил свою машину. Приходится присматривать и за состоянием дорог, выписывать предписания руководителям, которые отвечают за них. Не секрет, многие из них в безобразнейшем состоянии: колдобина на колдобине. Случается штрафовать и водителей за превышение нормы выброса отработанного газа. Делается это с помощью газоанализатора, который постоянно при нас. Но больше всего хлопот, конечно, с промышленными предприятиями. За всевозможные нарушения в прошлом году только по нашему району они были оштрафованы на полтора миллиона рублей, наказаны многие руководители. Особенно много тревог и беспокойства доставляет нам промышленный узел Шабаны, где размещено около ста предприятий. Посягательства на природу здесь отмечаются практически еженедельно, а то и ежедневно. И управы на многих горе-руководителей не найти. Им наши штрафы, что укус комара. Потому, считаю, санкции нужно ужесточать.

Каждый вторник и четверг к нашим работникам подключаются представители санэпидемстанции и райсовета. И такое взаимодействие приносит свои плоды. Наш опыт приезжают перенимать из других городов республики и даже регионов СНГ. Но, как бы то ни было, нужно понимать, что чисто не там, где убирают, а там, где не сорят. И, перефразируя известный афоризм, хочется сказать: минчане, пусть чистота и порядок останутся показателем вашей вежливости.

• СИТУАЦИЯ

# ПРОФСОЮЗЫ ПРОТЕСТУЮТ

Инф. «ДВ».

Ассоциация независимых профсоюзов промышленности Беларуси обратилась в Верховный Совет и Совет Министров республики с протестом по поводу некоторых решений высших органов нашей законодательной и исполнительной власти. В обращении говорится, что в результате требований, высказанных пленумом Федерации профсоюзов Беларуси, отменено административное регулирование заработной платы на промышленных предприятиях, предусмотренное пунктом 2 постановления правительства № 800. Однако уже 29 января 1992 года Совет Министров, заручившись поддержкой Верховного Совета, принимает постановление № 46, которое не учитывает факторов роста заработной платы и ставит в одинаковые условия коллективы, имеющие различный уровень производительности труда. При этом в более выгодном положении оказались те предприятия, которые допустили значительное снижение обьемов производства, а весь прирост средств на оплату труда получают за счет роста цен. Указанное постановление фактически направлено против стимулирования роста квалифицированных кадров, а также против повышения производительности труда и увеличения обьемов производства. Непонятна позиция Верховного Совета, принявшего решение — отнести к средствам на выплату материальной помощи деньги, которые предназначались на оплату путевок, безвозмездных ссуд, единовременных пособий и т.д. Кстати, все они не были учтены в расчете минимальной заработной платы.

Добросовестным помощником правительства в деле наступления на уровень жизни трудящихся является и Государственный комитет по труду и социальной защите населения. Введя с 1 января 1993 года новые размеры пособий семьям, воспитывающим детей, Госкомтруд до максимума ограничил круг этих семей, утвердив «Положение о порядке исчисления совокупного дохода на члена семьи при назначении пособий на детей». В состав дохода семьи включен даже подоходный налог, который, как известно, идет государству.

В условиях дальнейшего спада производства, падения жизненного уровня населения данные действия правительства носят антинародный характер и усугубляют ситуацию в республике.

Ассоциация независимых профсоюзов промышленности в своем обращении требует:

— не ограничивать никакими налогами повышение заработной платы в пределах роста цен, так как такое повышение является только компенсацией инфляционных процессов и не может рассматриваться как первопричина инфляции;

— до 1 апреля 1993 года пересмотреть размер минимальной заработной платы, привести ее в соответствие с реальной стоимостью минимальной потребительской корзинки, включающей в себя затраты работников на оздоровление и отдых, обзаведение домашним хозяйством и другие затраты, которые ранее, до принятия Верховным Советом соответствующего постановления от 23 декабря 1992 года, не относились к средствам на оплату труда;

— до принятия решения о пересмотре размера минимальной заработной платы приостановить действие постановления Совета Министров № 46 от 29 января 1993 года в части дополнительного налогообложения прибыли за превышение нормируемой величины средств на оплату труда;

— превышение роста заработной платы над темпами роста цен может облагаться дополнительным налогом, но при этом обязательно должна учитываться зависимость роста зарплаты от роста производительности труда;

— при исчислении совокупного дохода на члена семьи при назначении пособия на детей заработную плату принимать за минусом подоходного налога.

В случае, если все эти предложения не будут рассмотрены, правление ассоциации будет считать их официальными для рассмотрения в соответствии с Законом о порядке разрешения трудовых споров (конфликтов).

• ЭКАНАМІЧНЫЯ ЗВЕСТКІ

АНДРЭЙ ПАТРЭБІН «ДВ»

## *КОЖНАМУ СВАЁ*

На 1993 год прадугледжана да 450 мільярдаў рублёў расходаў і датацый для падтрымання дзяржаўных прадпрыемстваў на Беларусі (у мінулым годзе на гэтыя справы бязвыплатна пайшло каля 100 мільярдаў рублёў). На гэтым фоне даволі цікава выглядае гэткі факт: 200 мільёнаў, абяцаных і выдаткаваных на дзяржаўную праграму падтрымкі прадпрымальніцтва (на ўмовах зваротных!), яшчэ не выдаткаваны на самай справе Міністэрствам фінансаў, але ўрад ужо вырашыў у маі пацікавіцца, пачуць, як выкарыстаны гэтыя сродкі...

## *ЦЯЖКІ ГРУЗ «ТЭХНІЧНЫХ КРЭДЫТАЎ»*

Па ўсіх падліках Беларусь у цяперашняй сітуацыі з цэнамі на сыравіну і энерганосьбіты ў 1993 годзе зноў мае шанс заплаціць за пастаўкі з Расіі значна больш, чым прадаць туды сваёй прадукцыі. Урад дамовіўся з усходнім суседам аб тэхнічным крэдыце на 150 мільярдаў рублёў, ад чаго Нацыянальны банк зусім не ў радасці, бо ў мінулым годзе такі крэдыт абярнуўся ўжо 112 мільярдамі рублёў знешняй запазычанасці. Але ж, магчыма, і 150 мільярдаў не хопіць!..

Нацыянальны банк у такіх умовах будзе працягваць продаж безнаяўных расійскіх рублёў на біржы, і яго спецыялісты зусім не абяцаюць у бліжэйшы час паляпшэння ў разліках. Праблему, вядома, можна вырашаць і іншым шляхам: павышаць экспартны патэнцыял і нарошчваць прыток СКВ у рэспубліку. Але гэта не так проста. Генеральны дырэктар «Бабруйскдрэва» В.Д.Таранаў лічыць, што для вырашэння ўсіх праблем і набліжэння да Еўропы Беларусі трэба мець штогод экспарт у цвёрдай валюце не 1,1 мільярда долараў як сёння, а да 20 мільярдаў. Зразумела, такі прагрэс патрабуе гадоў і дзесяцігоддзяў, ды й то пры прадуманай дзяржаўнай стратэгіі.

Застаецца дадаць, што ў самой Расіі палітыка прадастаўлення Цэнтрабанкам тэхнічных крэдытаў былым саюзным рэспублікам (за мінулы год яны дасягнулі 2 трыльёнаў рублёў) узмоцнена крытыкуецца, бо садзейнічае інфляцыі. Але на гэта ідуць «дзеля падтрымання гаспадарчых сувязяў у СНД».

## *ГЕАГРАФІЯ ДЛЯ БІЗНЕСМЕНАЎ*

Антыманапольны камітэт пры Саўміне Беларусі самастойна разаслаў па раёнах запыты аб рэальным стане малога бізнесу (таму што афіцыйная статыстыка па гэтаму напрамку, па меркаванню спецыялістаў камітэта, недастатковая). Зараз Саюз прадпрымальнікаў узгадняе з Дзяржкамстатам парадак збору даных з недзяржаўных прадпрыемстваў. Справа ў тым, што на месцах інфармацыя часта ўтойваецца альбо жадаемае выдаецца за існае. Цяпер атрыманыя даныя дазволяць скласці своеасаблівую карту развіцця бізнесу ў Беларусі, на якой будуць адзначацца як «добрыя», так і неспрыяльныя для «новай эканомікі» раёны і гарады. Цікавы крок у развіцці эканамічнай геаграфіі...

• ПРАБЛЕМЫ ЭКАЛОГІІ

# ЧЫСТАЕ ПАВЕТРА — НАЙВЯЛІКШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ І ГАЛОЎНЫ ДЭФІЦЫТ

Міхаіл Валькоўскі «ДВ»

(Заканчэнне. Пачатак у №55...)

### ЦІ ТАК УСЁ ЦУДОЎНА НА МАЗе?

На самай справе, ці можна гаварыць аб карэнным змяненні экалагічнай сітуацыі? З такім пытаннем мы звярнуліся да галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Заводскага раёна У.А.Жабакрыка.

**— Часам вакол МАЗа складваецца дастаткова складаная экалагічная абстаноўка,— гаворыць Уладзімір Андрэевіч.— Асабліва, калі ў сувязі з метэаралагічнымі ўмовамі накладваюцца выкіды аўтатранспарту, які рухаецца па Партызанскім праспекце, і выкіды іншых прадпрыемстваў (галоўным чынам МТЗ і маторнага завода). Тады забруджанасць у гэтым месцы ў тры–чатыры разы вышэй дазволенай нормамі). Сам жа МАЗ робіць шмат дзеля змяншэння шкодных выкідаў, бадай што больш, чым якое іншае прадпрыемства горада. Удалае размяшчэнне завода адносна пануючых вятроў: выкіды ідуць за горад паміж Чыжоўкай і Шабанамі. Але ж гэтыя самыя вятры (а па даных Гідраметцэнтра яны маюць гэты напрамак каля 160 дзён у годзе) прыносяць у Заводскі раён выкіды ўсяго горада. Так, згодна з экалагічным пашпартам раёна, толькі выкіды МТЗ, ДПЗ, маторнага завода ў шмат разоў перавышаюць гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі шкодных рэчываў у жылой зоне Заводскага раёна.**

На думку спецыялістаў, кардынальнае рашэнне — вынас ліцейных цэхаў за межы горада — на сённяшні дзень маларэальнае. Ачышчальныя збудаванні пры ўсёй іх эфектыўнасці — паўмера. Але трэба адзначыць, што МАЗ дае вельмі мала таксічных выкідаў, асноўная частка іх — малатаксічныя. Няма аварыйных выкідаў, усе ачышчальныя збудаванні працуюць пад уважлівым кантролем. Так што становішча далёкае ад крытычнага, хоць і дастаткова складанае.

**— Праводзімы намі кантроль,— гаворыць У.А.Жабакрык,— (у тым ліку і ў начны час) паказаў, што фактаў павелічэння выкідаў няма. Так, за студзень бягучага года зроблена 144 аналізы і толькі ў 24 пробах было выяўлена перавышэнне гранічна дапушчальных канцэнтрацый (да двух разоў). У тым ліку па фенолу — 3, па вокісу вугляроду — 10, па вокісу азоту — 8 і па фармальдэгіду — 3 пробы. Але мяне як санітарнага ўрача вельмі не задавальняе тое, што такая вытворчасць з такой валавой колькасцю выкідаў так блізка набліжана да жылля. Калі нельга вытворчасць вынесці з горада, трэба жылую забудову выносіць далей ад завода, бо дамы апынуліся ледзьве не на тэрыторыі МАЗа. Трэба шукаць магчымасці высяляць людзей з дамоў паміж Партызанскім праспектам і агароджай МАЗа (вул.Цэнтральная, Мічурына). Па нашай пастанове закрылі дзіцячыя дашкольныя ўстановы, якія будаваліся разам з МАЗам і апынуліся зусім побач з ім (дзіцячыя яслі № 39 Мінскпрамбуда па вул.Кабушкіна, дзіцячы сад № 7 Мінскпрамбуда).**

Назіраецца цесная сувязь паміж станам паветра і здароўем людзей. Дык вось, не адзначан рост захворванняў у раёне, колькасць іх застаецца стабільнай.

Кіраўнік навукова-доследнай лабараторыі газаачысткі Беларускай політэхнічнай акадэміі кандыдат тэхнічных навук А.А.Белы лічыць:

**— Праблема аховы атмасферы — комплексная. Вырашыць яе можна толькі з удасканаленнем тэхналогій, з распрацоўкай і ўкараненнем сістэм і апаратаў ачысткі паветра, з выхаваннем экалагічнай культуры. Бо нават самы дасканалы апарат па ачыстцы паветра пры тэхналогіі мінулага стагоддзя і экалагічным невуцтве не дасць і паловы таго эфекту, які ён здольны даць.**

Рэзервы па змяншэнню выкідаў нават пры існуючых у вытворчасці тэхналогіях ёсць, але выкарыстоўваюцца яны слаба. Няма дзейснага эканамічнага стымулу. Ва ўмовах манапалізму вытворцы штрафы за забруджванне паветра кладуцца на сабекошт прадукцыі і, у канчатковым выніку, аплачваюцца з кішэні спажыўца.

Але галоўная прычына не толькі ў тэхналогіі, у падыходзе да аховы асяроддзя, але і ў самім грамадстве. Чыстае паветра, бяспечныя прадукты харчавання, добрыя ўмовы працы і адпачынку чалавека — усе гэтыя каштоўнасці ў нас не сталі прыярытэтнай мэтай, не выліліся ў агульнанацыянальную праграму з адпаведным фінансаваннем.

Бо на экалогію неабходна траціць і траціць шмат. Па вопыту заходніх краін — ад 10 да 25% ад даходу. А пры запушчанасці спраў у нас — і шмат больш. Грамадства не гатова да такіх трат ні эканамічна, ні псіхалагічна. Красамоўны штрых — пры цяжкасцях з электраэнергіяй першымі пад эканомію трапляюць устаноўкі па ачыстцы выкідаў.

**— Улічваючы, што гэтыя ўстаноўкі вельмі энергаёмістыя, дастаткова складаныя ў эксплуатацыі, патрабуюць трохзменнага абслугоўвання,— гаворыць А.А.Белы,— трэба перагледзець аднясенне трат на іх на іншую частку бюджэту прадпрыемства. Устаноўкі, распрацаваныя нашай лабараторыяй, дазваляюць ачышчаць паветра ад выкідаў да 95%, або ў 2–3 разы зменшыць выкіды пылу ў параўнанні з традыцыйнымі канструкцыямі. Ёсць і шэраг іншых распрацовак, але састарэлыя тэхналогіі, зношанае абсталяванне, адсутнасць плошчаў і не прыстасаваныя будаўнічыя канструкцыі не дазваляюць у поўнай меры рэалізаваць праекты. Дадайце сюды дэфіцыт матэрыялаў (нержавеючых сталяў, спецыяльных пластмас), вузлоў аўтаматыкі сістэм кантролю. Асноўная ж прычына — адсутнасць у рэспубліцы спецыяльных вытворчых магутнасцей па вытворчасці ўстановак пылагазаачысткі. Кожны завод робіць іх як можа і дзе можа. Адсюль — іх кошт і хібы ў эфектыўнасці.**

Многае засталося па-за рамкамі нашай размовы. Напрыклад, цеплавое забруджванне атмасферы. А адна вагранка ў гадзіну дае 100000 м3 газаў з тэмпературай 1000°С. Дадайце сюды яшчэ дапальванне $CO$ да $CO_2$ газавымі гарэлкамі. Толькі пераход на іншы сартымент металу дазволіць пазбегнуць вялікай колькасці выкідаў. Што казаць, распрацоўкі беларускіх вучоных і канкрэтна — лабараторыі, якой кіруе А.А.Белы, нічым не адрозніваюцца ад заходніх. Але тэхнічна вельмі цяжка іх упісаць у нашы састарэлыя тэхналогіі, у архітэктуру заводскіх карпусоў, пабудаваных адразу пасля вайны.

Падвядзём некаторыя вынікі. Чатыры пункты погляду на адну праблему, прадстаўленыя тут, не вычэрпваюць усіх яе граняў. Аўтар жа хацеў бы выказаць і свой погляд радавога жыхара раёна, дзе нельга павесіць на балкон сушыць бялізну (бо яна набывае трывалы хімічны пах і на яе садзяцца плямы сажы).

Так, усе мы дыхаем адным паветрам, а ўмоўныя межы раёнаў не перашкаджаюць ветру пераносіць выкіды адных прадпрыемстваў у іншыя раёны. Калі МАЗ прыкладае ўсе намаганні, каб знізіць забруджванні, то іншыя гэтым пахваліцца не могуць. У выніку пакутваюць усе. І вырашаць праблему патрэбна ўсім разам, калі не хочам праз нейкі час дыхаць праз процівагаз ці рэспіратар.

